




Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!


# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдавеца Інфармацыйна-Выдавецкім Бюро Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнага Савету
г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3. = Падпісная плата на год 5 р. і на $^1/_2$ г. 2 р. 50 к.

VII-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 13 (114) | 1 верасьня 1931 г. | № 13 (114)




## ЗЬМЕСТ



---

### 63. Ад Урадавай Камісіі па бесьперапыннаму і перапыннаму вытворчаму тыдню пры СНК БССР.




З прычыны масавых запытаньняў, якія паступаюць ва Урадавую Камісію ад шэрагу цэнтральных, гарадзкіх і раённых установаў і арганізацый аб пераводзе ўстаноў на шасьцідзённы перапынны вытворчы тыдзень і маючыхся ужо з боку некаторых устаноў тэндэнцый да пераводу іх на 6-ціднёўку перарыўку, Урадавая Камісія пры СНК БССР

растлумачвае, штó да вырашэньня гэтага пытаньня Урадавай Камісіяй самастойныя пераводы і ломкі існуючай бесьперапыннай сыстэмы работы ва ўстановах катэгарычна забараняюцца.

Старшыня Ўрадавай Камісіі пры СНК БССР **А. Баскін.**

Адказны Сакратар **Гольдзінберг.**

30/VIII-1931 г.

## Пастанова Урадавай Камісіі па бесьперапыннаму і перапыннаму вытворчаму тыдню.

### 64. Пра ўпарадкаваньне пытаньня пераводу прадпрыемстваў з бесьперапыннага на перапынны вытворчы тыдзень і наадварот.

У мэтах упарадкаваньня пытаньня пераводу прадпрыемстваў з бесьперапыннага на перапынны вытворчы тыдзень і наадварот і канчатковага зьнішчэньня абязьлічкі, якая зараз наглядзецца ў шэрагу прадпрыемстваў, Урадавая Камісія па бесьперапыннаму і перапыннаму вытворчаму тыдню пры СНК БССР пастанаўляе:

1. Усе прадпрыемствы, якія працуюць у 3 зьмены, павінны неадкладна прыступіць да пераходу на 4-хбрыгадны графік з тым, каб 4 рабочых абслугоўвалі ў працягу 3-х зьмен адно рабочае месца. Ужываньне графікаў, якія прадугледжваюць скальзячыя зьмены, забараняецца.

2. На прадпрыемствах з 3-хзьменнай сыстэмай работы пры 7-мігадзінным рабочым тыдні і 4-хкадравым графіку, у мэтах павялічэньня загрузкі абсталяваньня, дазваляецца ўвесьці месячны падлік рабочага часу з тым, каб агульны балянс рабочага часу кожнага рабочага не перавышаў бы 168 гадз. 45 мін. у месяц.

Увага. Графік 3-хзьменнай бесьперапынкі без скальжэньня (4-хбрыгадны) дасылаецца усім гаспадарчым арганізацыям і органам працы.

3. Пры ўвядзеньні 4-хбрыгаднага графіку, гаспадарчыя арганізацыі павінны зрабіць разьбіўку рабочых на сталыя брыгады, замацаваўшы за імі пэўныя станкі і машыны і вызначаўшы для абслугоўваньня брыгад сталую асобу з інжынэрна-тэхнічнага пэрсаналу.

Ніякіх дадатковых дазволаў на перавод пры паказаных у п. п. 1, 2 і 3 умовах гаспадарчым арганізацыям не патрабуецца.

4. Абавязаць усе гаспадарчыя арганізацыі не пазьней 10-га верасьня 1931 г. устанавіць, якія з прадпрыемстваў, працуючыя ў адну ці 2 зьмены, могуць быць пераведзены на 3-хзьменную сыстэму з 4-хбрыгадным графікам.

Прадпрыемствы з аднэй ці 2-хзьменнай сыстэмай, якія зараз нельга перавесьці на 3-хзьменную сыстэму работы з 4-хбрыгадным графікам, ў асноўным могуць быць пераведзены на 6-цідзённы перапынны тыдзень (5 дзён работы—6-ты выходны).

Пры гэтым перавод адно-ці 2-хзьменных прадпрыемстваў на 6-цідзённы перапынны тыдзень ні ў якім разе ня можа рабіцца за лік

зьніжэньня вытворчых праграм і зьмяншэньня выпуску прадукцыі, зацьверджаных прамфінплянам на прадпрыемствах.

5. Захаваньне непрарыўкі у 2-х—і адназьменных прадпрыемствах можа мець месца ў тых толькі выпадках, дзе непрарыўка ня выклікае абязьлічкі і захаваньне непрарыўкі гаспадарча мэтазгодна.

6. Перавод адназьменных работ на перапынны 6-цідзённы тыдзень у адпаведнасьці з абзацам 3-м арт. 4 гэтае пастановы робіцца непасрэдна фабрычна-заводзкімі арганізацыямі з папярэднім зацьверджаньнем гаспадарчымі аб'яднаньнямі.

Для пераводу 2-хзьменных работ на перапынны 6-цідзённы тыдзень ці захаваньне бесьперапыннага вытворчага тыдню (п. 5) як у 2-х таксама і адназьменных прадпрыемствах патрабуецца для прадпрыемстваў прамысловасьці рэспубліканскага значэньня дазвол Урадавай Камісіі, а для прадпрыемстваў прамысловасьці мясцовага значэньня—дазвол раённа-гарадзкіх інспэкцый працы.

7. Увядзеньне якіх бы то ні было іншых зьмен у сыстэму работ, самавольны пераход прадпрыемства з бесьперапыннага на перапынны тыдзень і наадварот, а таксама ўвядзеньне 7-мідзённага тыдню і інш. парадкаў, не прадугледжаных гэтаю пастановай, забараняецца.

8. Усе выпадкі пераводу прадпрыемстваў у парадку, прадугледжаным гэтай пастановай, павінны быць папярэдне ўзгоднены з адпаведнымі прафарганізацыямі і шырока распрацаваны і падрыхтаваны на прадпрыемствах з актывам рабочае грамадзкасьці.

Без належнай падрыхтоўчае прапрацоўкі Урадавая Камісія і мясцовыя органы працы матарыялаў разглядаць ня будуць.

9. Перавод 3-хзьменных работ на 4-хбрыгадны графік і адна ці 2-хзьменных—на 6-ціднёўку—перапынку, павінен, быць скончаны не пазьней 25 верасьня 1931 году.

Старшыня Урадавай Камісіі **А. Баскін.**

Адказны Сакратар **Гольдзінберг.**

30 жніўня 1931 г.
№ 1.

## Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР.

### 65. Пра грамадзкіх інспэктароў па ахове працы.

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Увесьці на тэрыторыі БССР Палажэньне аб грамадзкіх інспэктарох па ахове працы, зацьверджанае НКП СССР 10|VIII-1931 г. за № 226.

2. Зацьверджанае НКП БССР 15 верасьня 1930 г. „Палажэньне пра грамадзкіх інспэктароў працы“ (апублік. ў „Зборніку Працоўнага Заканадаўства СССР і БССР“)—скасаваць.

Народны Камісар Працы БССР **А. Баскін.**

Заг. Сэктару Арганізацыі і Аздараўленьня ўмоў працы НКП БССР **Гольдзінберг.**

25 жніўня 1931 г.
№ 36.

Дадатак.

Зацьверджана НКПрацы СССР
10 жніўня 1931 г. за № 226.

# Палажэньне пра грамадзкіх інспэктароў па ахове працы.

(Выдадзена на падставе арт. 7 пастановы СНК СССР за 30 чэрвеня 1931 г. пра грамадзкіх інспэктароў па ахове працы—З. З. СССР, 1931 г., № 42, арт. 289).

## I. Задачы грамадзкіх інспэктароў па ахове працы.

1. Выкананьне народна-гаспадарчага пляну і палепшаньне аховы працы і тэхнікі бясьпекі на вытворчасьці патрабуе ад органаў працы перабудовы сваёй работы ў частцы нагляду за правядзеньнем у жыцьцё законаў па ахове працы і тэхнікі бясьпекі на вытворчасьці.

Аднэй з форм перабудовы зьяўляецца арганізацыя кадраў грамадзкіх інспэктароў па ахове працы ва ўсіх дзяржаўных вытворчых прадпрыемствах, на транспарце, на будаўніцтве і ў саўгасах.

2. Задачай грамадзкіх інспэктароў па ахове працы ў межах іх прадпрыемстваў зьяўляецца ажыцьцяўленьне нагляду за выкананьнем адміністрацыяй прадпрыемства ці гаспадаркі Кодэксу Законаў аб Працы, пастаноў і распараджэньняў цэнтральных і мясцовых органаў улады, калектыўных дагавораў і правіл унутранага парадку ў частцы, якая датычыцца аховы працы і тэхнікі бясьпекі (барацьба з няшчаснымі выпадкамі, палепшаньне прыстасаваньняў па агарожах; правільнае скарыстаньне абаронных прыстасаваньняў, спэцвопраткі, вытворчае вопраткі, забясьпечаньне чыстаты памяшканьняў і месца работы і г. д).

## II. Парадак вылучэньня грамадзкіх інспэктароў.

3. Грамадзкія інспэктары вылучаюцца фабзаўкомамі ў парадку дабраахвотнасьці, тэрмінам на адзін год, з рабочых-ударнікаў і асоб інжынэрна-тэхнічнага пэрсаналу, якія зьяўляюцца членамі прафсаюза і добра ведаюць вытворчасьць.

Асобы, якія займаюць адміністрацыйна-гаспадарчыя пасады і работнікі адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсаналу, вылучаныя адміністрацыяй для правядзеньня мерапрыемстваў па ахове працы і тэхнікі бясьпекі, ня могуць быць грамадзкімі інспэктарамі.

4. Колькасьць вылучаемых інспэктароў устанаўляецца фабзаўкомамі па кожнаму прадпрыемству, цэху ці гаспадарцы, у залежнасьці ад аб'ёму працы прадпрыемства, цэха ці гаспадаркі, па ўзгадненьню з раённым інспэктарам працы, але ня менш аднаго ў цэху, зьмене, лаве і г. д.

5. Звальненьне грамадзкага інспэктара, а таксама перавод яго ў іншае прадпрыемства дапушчаецца толькі са згоды фабзаўкома і раённага інспэктара працы.

6. Для падрыхтоўкі і павышэньня кваліфікацыі грамадзкіх інспэктароў арганізуюцца, па меры патрэбы, спэцыяльныя курсы:

а) пры НКП СССР цэнтральныя курсы (для работнікаў вядучых галін народнае гаспадаркі), курсанты якіх аслабаняюцца ад работы на вытворчасьці

б) пры НКП саюзных і аўтаномных рэспублік, пры краявых, абласных і раённых органах працы—рэспубліканскія і мясцовыя курсы, на якіх занаткі вядуцца ў нерабочы для курсантаў час, без адрыву іх ад вытворчасьці.

### III. Правы грамадзкіх інспэктароў.

7. Для ажыцьцяўленьня нагляду за правядзеньнем у жыцьцё заканадаўства па ахове працы і тэхнікі бясьпекі, грамадзкі інспэктар у межах свайго прадпрыемства мае права:

а) наведваць ня ў свой рабочы час ва ўсялякі час дня і ночы ўсе цэхі, аддзелы і работы прадпрыемства ці гаспадаркі, а таксама і маючыяся пры ім памяшканьні для абслугоўваньня працуючых (лазьні, сталовыя, інтэрнаты, амбуляторыі і г. д.);

б) патрабаваць ад адміністрацыі неабходных тлумачэньняў, кнігі, дакуманты і іншыя зьвесткі, якія тычацца аховы працы і тэхнікі бясьпекі;

в) даваць праз раённага інспэктара працы ці па папярэдняму з ім узгадненьню абавязковыя для адміністрацыі прадпісаньні аб адхіленьні парушэньняў устаноўленых правіл аховы працы і тэхнікі бясьпекі;

г) прыцягваць адміністрацыю, па ўзгадненьню з раённым інспэктарам працы, да адказнасьці на падставе чыннага заканадаўства за парушэньне законаў аб працы;

д) прымаць удзел у складаньні плянаў па ахове працы і тэхнікі бясьпекі.

8. Усе скаргі на рашэньні ці дзейнасьць грамадзкага інспэктара падаюцца раённаму інспэктару працы.

### IV. Абавязкі грамадзкіх інспэктароў.

9. На грамадзкіх інспэктароў, у межах іх прадпрыемстваў, ускладаецца:

а) наглядаць за поўным і сваечасовым правядзеньнем у жыцьцё Кодэксу Законаў аб Працы, пастаноў і распараджэньняў цэнтральных і мясцовых органаў Улады, калектыўных договараў і правіл унутранага парадку—у частцы, якая датычыцца аховы працы і тэхнікі бясьпекі;

б) арганізаваць сацспаборніцтва па пытаньнях аховы працы і тэхнікі бясьпекі (п. „д“ арт. 7) для ўключэньня іх у прамфінпляны, дабіваючыся сваечасовага і поўнага выдаткаваньня адпушчаных сродкаў па простаму прызначэньню;

г) азнаямляць рабочых з чыннымі правіламі па тэхніцы бясьпекі і прамысловай санітарыі, прыцягваючы да гэтай працы інжынэрна-тэхнічных работнікаў прадпрыемства;

д) сачыць за правільнай і своечасовай выдачай і скарыстаньнем спэцвопраткі, вытворчай вопраткі і абаронных прыстасаваньняў, а таксама за правільным і своечасовым прадстаўленьнем заявак на іх.

10. У выпадку невыкананьня адміністрацыяй законаў па ахове працы і тэхнікі бясьпекі, грамадзкі інспэктар складае акт і ва ўстаноўленым парадку (п. „е" арт. 7) дае прадпісаньне адміністрацыі аб адхіленьні выяўленых недахопаў у вызначаныя тэрміны, правяраючы потым выкананьне гэтага прадпісаньня.

Аб невыкананьні прадпісаньня адміністрацыяй, грамадзкі інспэктар паведамляе раённаму інспэктару працы для прыняцьця адпаведных мер узьдзейнічаньня.

## V. Парадак працы грамадзкіх інспэктароў.

11. Грамадзкія інспэктары выконваюць свае абавязкі ў парадку грамадзкай нагрузкі, у вольны ад работы час без асобай аплаты з максымальным аслабаненьнем ад усіх іншых грамадзкіх нагрузак.

За прыкладную пастаноўку работы па ахове працы і тэхнікі бясьпекі, грамадзкія інспэктары прэміруюцца з фонду прэм'яваньня.

12. У межах свайго прадпрыемства, грамадзкія інспэктары:

а) устанаўляюць абавязковыя для іх дзяжурствы для прыёму ад рабочых заяў і скарг, па дачы тлумачэньняў і г. д. і аб днёх, гадзінах і месцы дзяжурства шырока паведамляюць усіх рабочых;

б) рэгулярна наведваюць цэхі і аддзелы прадпрыемстваў, для работы ў якіх яны вылучаны, наглядаючы за становішчам аховы працы і тэхнікі бясьпекі.

13. Сваю работу грамадзкія інспэктары праводзяць у цеснай сувязі з профарганізацыяй і з Бюро тэхнікі бясьпекі.

14. Кіраваньне работай і інструктаж грамадзкіх інспэктароў ускладаецца на раённых інспэктароў працы.

15. Раённыя інспэктары працы абавязаны не радзей аднаго разу ў месяц склікаць грамадзкіх інспэктароў для інструктаваньня і азнаямленьня іх з новым заканадаўствам па ахове працы і тэхнікі бясьпекі, а таксама снабжаць іх адпаведнай літаратурай.

16. Грамадзкія інспэктары систэматычна робяць справаздачы ар працы перад фабзаўкомамі і раённым інспэктарам працы.

Нам. Наркампрацы СССР **Краваль.**

Член Калегіі НКП СССР **Дубнер.**

Узгоднена з УсеЦСПС—**Вайнбэрг.**

### 66. Пра даплату розьніцы ў зарплаце рабочым і служачым, якія пасылаюцца на кампанію па торпу.

Савецкімі, гаспадарчымі і прафэсійнымі органамі, ў мэтах ліквідацыі прарыву па выкананьні прамфінпляну на торпазаводах, пасылаюцца рабочыя брыгады з лепшых рабочых і служачых прадпрыемстваў і ўстаноў.

Прымаючы пад увагу выключна важнае значэньне пасьпяховага выкананьня прамфінпляну па торпу для выкананьня прамфінпляну па ўсёй прамысловасьці, Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. За рабочымі і служачымі, якія камандыруюцца на торпазаводы, у тых выпадках, калі яны па выконваемай імі працы на торпазаводзе атрымліваюць меншую плату, чымся на прадпрыемстве ці ва ўстанове, ў якіх яны працуюць на сталай працы, захоўваецца іх сярэдняя заработная плата.

2. Розьніца паміж заработнай платай, атрымліваемай на торпазаводах, і заработнай платай, атрымліваемай на прадпрыемстве і ва ўстанове па месцы сталай працы, выплачваецца тымі прадпрыемствамі і ўстановамі, ад якіх яны былі камандыраваны на ліквідацыю прарываў па торпу.

3. Гэта розьніца выплачваецца пры падачы адпаведных даведак ад торпазаводу і высылаецца па месцы іх работы ў тэрмін выплаты заработнай платы, устаноўлены каляктыўным дагаворам.

Народны Камісар Працы БССР **А. Баскін.**

1 верасьня 1931 г.
№ 37.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Камунальнай Гаспадаркі БССР.

### 67. Пра рэгістрацыю арыштаў, якія накладаюцца на немуніцыпалізаваныя домаўладаньні і права забудоўкі, іх зьмен і зьняцьця іх.

*Усім камунальным аддзелам гарадзкіх саветаў, сельскім і мястэчковым саветам і натарыяльным канторам.*

З прычыны таго, што паводле пастановы ЦВК і СНК БССР за 25/V-1931 г. (З. З. БССР, 1931 г., № 21) рэгістрацыя арыштаў, якія накладаюцца на немуніцыпалізаваныя домаўладаньні і права забудоўкі, іх зьмен і зьняцьця цяпер будзе выконвацца камунальнымі аддзеламі гарадзкіх саветаў, а таксама сельскімі і мястэчковымі саветамі, Народны Камісарыят Юстыцыі і Народны Камісарыят Камунальнай Гаспадаркі пастанаўляюць:

1. Прапанаваць натарыяльным канторам праглядзець збор (нарады) арыштаў на будынкі і права забудоўкі і выдзяліць з іх артыкулы аб арыштых (забараняльныя артыкулы), а таксама зрабіць выпіскі з альфабэтаў арыштаў на будынкі і права забудоўкі і не пазьней 1 верасьня 1931 г. усе забараняльныя артыкулы і адпаведныя

выпісы з альфабэтаў перадаць камунальным аддзелам гарадзкіх саветаў, сельскім і местачковым саветам па месцы знаходжаньня маемасьці, на якую маюцца забараняльныя артыкулы.

Не здадзеныя ў архіў альфабэты арыштаў на будынкі і права забудоўкі перадаюцца натарыяльнымі канторамі ў камунальныя аддзелы гарадзкіх саветаў тых гарадоў, у якіх знаходзяцца натарыяльныя канторы.

II. Камунальным аддзелам гарадзкіх саветаў, сельскім і местачковым саветам прапанаваць прыняць ад натарыяльных кантор альфабэты арыштаў на будынкі і права забудоўкі і выпісы з газэт, альфабэтаў і забараняльныя артыкулы на будынкі і права забудоўкі, якія знаходзяцца на тэрыторыі данага савету, і не пазьней 1 верасьня 1931 г. распачаць работу па рэгістрацыі арыштаў на будынкі і права забудоўкі, зьняцьця іх і зьмен.

Рэгістрацыя арыштаў праводзіцца на падставе паказаных ніжэй правіл:

**Правілы пра рэгістрацыю арыштаў, якія накладаюцца на немуніцыпалізаваныя домаўладаньні і права забудоўкі, іх зьмен і зьняцьця іх.**

1. На падставе пастановы ЦВК і СНК БССР за 15/V-31 г. „Пра зьмену арт. арт. 1, 2, 3, 28, 29, 45 і 46 і пра скасаваньне арт. арт. 41 і 44 натарыяльнага палажэньня БССР“ (З. З. БССР 1931 г. № 21, паст. 170) камунальныя аддзелы гарадзкіх саветаў, сельскія і местачковыя саветы рэгіструюць арышты, якія накладаюцца па патрабаваньняхорганаў суда, пракуратуры, натарыяту, адміністрацыйных органаў і па заключэньні дагавароў і выдачы застаўных пасьведчаньняў на домаўладаньні і права забудоўкі.

2. У патрабаваньнях аб арышце павінна паказвацца:

а) прозьвішча, імя і імя па бацьку даўжнікоў (на кожную асобу трэба асобнае патрабаваньне аб арышце);

б) маемасьць, якая падлягае арышту, і яе месцазнаходжаньне (горад, раён, вуліца, нумар дому альбо домаўладаньня);

в) падстава арышту (застава, выдача застаўнага пасьведчаньня, спагнаньне ў бясспрэчным парадку);

г) сума спагнаньня альбо доўгу.

Патрабаваньне аб арышце павінна быць падпісана той асобай, якая накіроўвае патрабаваньне.

На падставе патрабаваньня камунальны аддзел ці савет складае артыкул аб арышце (забараняльны артыкул—гл. дадатак 1).

3. Калі патрабаваньне аб арышце ня мае ўсіх даных, што патрабуюцца арт. 2 гэтых правіл, то камунальны аддзел гарадзкога савету, сельскі ці местачковы савет, якому патрабаваньне аб арышце накіравана, павінен у звычайным парадку накласьці арышт на падставе даных патрабаваньня, і ў той жа час патрабуе ад установы ці асобы, што прыслала патрабаваньне, паданьня матарыялаў, якіх не хапае.

4. Наклаўшы арышт, камунальны аддзел гарадзкога савету, сельскі ці местачковы савет паведамляе асобу альбо ўстанову, па патрабаваньні якой арышт накладзен, нумар, пад якім арышт зарэгістраваны.

5. Арышты рэгіструюцца адзін за адным, і артыкулы аб арышце падшываюцца ў такім-жа парадку ў збор (нарад).

6. Даведкі аб арыштах выдаюцца ўласьнікам маемасьці, заставатрымальнікам, органам рабоча-сялянскай інспэкцыі, органам пракуратуры, суда і сьледства, натарыяльным органам, установам—адносна асоб і арганізацый, з якіх гэтыя ўстановы робяць спагнаньне, а ўсім іншым установам—толькі на падставе пасьведчаньня судовых устаноў.

Даведка мае сілу на працягу трох дзён з дабаўленьнем часу, неабходнага на перасылку даведкі.

У даведцы паказваецца, для якой установы яна прызначаецца. Калі на працягу 3-х дзён пасьля выдачы даведкі на паказаную ў даведцы маемасьць паступіць арышт, камунальны аддзел гарсавету (сельскі ці местачковы савет) безадкладна паведамляе аб гэтым установу, па патрабаваньні якой даведка выдадзена. Па асобнай просьбе зацікаўленых асоб паведамленьне можа быць зроблена тэлеграфам за іх кошт.

7. Зьмена альбо зьняцьце арыштаў робіцца на падставе паведамленьня службовых асоб, якія наклалі арышт, альбо па заяве заставатрымальнікаў. Да заяў заставатрымальнікаў дадаюцца застаўныя акты.

У паведамленьні аб зьняцьці і зьмене павінны быць паказаны:

а) прозьвішча, імя і імя па бацьку даўжнікоў;

б) нумар па збору арыштаў, пад якім на маемасьць быў накладзен арышт;

в) падставы зьняцьця арышту.

Патрабаваньне аб зьняцьці павінна быць падпісана той асобай, якая патрабаваньне падае.

На падставе патрабаваньня аб зьняцьці арышту камунальны аддзел (ці савет) складае артыкул аб зьняцьці па далучаемай да гэтага форме і рэгіструе зьвесткі ў парадку, паказаным у арт. 5 гэтых правіл (гл. дадатак II).

8. Камунальныя аддзелы гарадзкіх саветаў, сельскія і местачковыя саветы вядуць альфабэты на арышты зьняцьці арыштаў і зьмены ў іх па форме, якая пры гэтым далучаецца (дадатак III). У гэтым альфабэце па прозьвішчах уласьнікаў адзначаюцца ўсе арышты, якія былі ўнесены ў збор (арт. 5) з паказаньнем нумару арышту на зборы.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **Файнбург.**

Народны Камісар Камунальнай Гаспадаркі БССР **Аксючыц.**

17 жніўня 1931 г.
№ 50.

Дадатак I
(да арт. 2 правіл).

## А Р Ы Ш Т

накладзен на будынак-права забудоўкі, якое належыць:
1. Прозьвішча . . . . . . . . . . . .
2. Імя . . . . . . . . . . . . .
3. Імя па бацьку . . . . . . . . . . .
якое знаходзіцца ў горадзе . . . . раёне . . . па вуліцы . . . . . . . пад № . . . . .
і складаецца (паказаньне будынку альбо пляцу з будынкамі на праве забудоўкі, з паказаньнем нумару па рэестру камунальнага аддзелу).

Кім арышт накладзен (сьледчым, натарыяльным органам, па пастанове народнага суда).

Пастанова: па выканальнаму лісту . . . . народнага суда за . . . . 193 . . г. № . . . . на спагнаньне ў карысьць гр-на . . . . такога-то . . . рублёў альбо ў забясьпечаньне іску такой-то асобы аб праве ўласнасьці на паказаны будынак—права забудоўкі альбо ў забясьпечаньне заставунага акту (дакладна яго вызначыць).

Подпіс . . . . .

(м п.)

Дадатак II
(да арт. 7 правіл).

## ЗЬНЯЦЬЦЕ АРЫШТУ

накладзенага на будынак-права забудоўкі, які належыць:
1. Прозьвішча . . . . . . . . . . . .
2. Імя . . . . . . . . . . . . .
3. Імя па бацьку . . . . . . . . . . .
зарэгістраванае па збору арыштаў за 193 . . г. пад № . .
падстава (заява гр-на . . . . . . пастанова . . . .
народнага: суда . . . . . за . . . . . 191 . . г. паведамленьне натарыяльнага органу альбо заставуны акт з подпісам аб уплаце доўгу, пасьведчаньне натарыяльным органам, альбо пастанова аб зьняцьці арышту іншага органу, па загаду якога арышт накладзен (павінны быць дакладна паказаны калі менавіта і якім органам пастанова вынесена).

Подпіс . . . . .

(м. п.)

Дадатак III.
(да арт. 8 правіл).

## ФОРМА АЛЬФАБЭТУ.

| №№ п. ч. | Прозьвішча, імя і імя па бацьку | Склад маемасьці і месцазнаходж. (гор., раён, вуліца і нумар дому) | Нумар арт. аб арышце па збору (параду) | Адзнака пра зьмену артыкулу | Адзнака пра зьмену арышту | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | |

Адказны Рэдактар С. Лодысеў.

Друк. Кір. Спраў СНК і ЭС БССР. Галоўлітбел № 294. Зак. № 497—5350 экз.

